Цана асобнага нумару 20 грошаў.

# Сын Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 злотыя**
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 29. Вільня, Серада, 20-га жніўня 1924 г. Год I.

Таму, хто ў часы агульнага сну, няволі і паняверкі сваей чуткай душой біцьцё сэрца Народу адчуў, — хто іскру жывую ў шэрых масах працоўных дагледзіў і працай ахвярнай жыцьця сваяго раздзьмухаў яе ў вялізарнае полымя Адраджэньня,

**— незабытаму беларускаму правадыру Івану Луцкевічу —**

**ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!**

## У пятыя угодкі сьмерці Ів. Луцкевіча.



**ІВАН ЛУЦКЕВІЧ**
28. V (10. VI.) 1881 — 20. VIII. 1919.

Жыць і працаваць Яму давялося ў тыя часы, калі йшчэ толькі выбранцы адважаліся йсьці пад беларускім сьцягам.

„Усё для Справы!“—быў кліч Івана Луцкевіча і тых, што ля Яго гурталіся.

Бо-ж іначай і быць не магло. Каб збудзіць вякамі нявоженыя, цёмныя, забітыя і несьвядомыя беларускія масы, каб разьбіць тыя путы, ў якія быў закаваны наш народ чужацкаю ўладаю,—патрэбны былі сілы тытанаў. Справа вымагала ўсіх сіл, усяе душы, ўсіх маральных і матар'яльных засобаў ад тых, у чыей душы збудзілася ўжо іскра сьвядомасьці грамадзкага абавязку.

Справе трэба было аддаваць усяго сябе—без астатку. Але Справа нікому нічога, апрача маральнага здаваленьня, не давала і не магла даваць....

Дык хоць многа было кліканых да працы дзеля Адраджэньня Народу, толькі нямногія аказаліся выбранымі, толькі лічаныя адзінкі выдзержывалі „агнявую пробу“ і з поўнай сьвядомасьцяй ішлі на службу беларускай Ідэі.

Затое тым мацнейшымі, тым больш гартоўнымі былі тыя, што адважаліся пайсьці па дарозе, па якой вёў іх Іван Луцкевіч.

— — — — — — — — — —

Час плыў, бы вада ў рацэ быстрацечнай. Усё бялейшым ставаўся твар Івана Луцкевіча, ўсё глыбей западалі вочы Яго, заўсёды поўныя агня, ўсё цяжэйшы кашаль зрываў хворыя грудзі Яго. Але Справа, якой Ен служыў, з кожным годам усё больш разьвівалася. І настаў мамэнт, калі многаміліённыя масы збуджанага зо сну Народу Беларускагаператварылі вялікую *Ідэю* Адраджэньня ў *жывое дзела.*

Зьдзейсьніліся сьмелыя лятуценьні Івана Луцкевіча!

Пачалося *ўсенароднае* будаваньне Беларусі. І прыйшлі пад сьцягі Яе новыя людзі,—прыйшлі тыя, што йшчэ ўчора ня верылі ў рэальнасьць нашае Справы, і тыя, што ня ўмелі нічога *даваць* Бацькаўшчыне, а толькі *браць* ад Яе.

Бо Беларусь ужо *можа даваць.* Бо Яна дае ўжо хлеб, корміць тых, хто Ей служыць. І вось распаляюцца апэтыты на народнае дабро, узьнімаецца барацьба за смачнейшы кусок. Эгаізм, самалюбства, шуканьне асабістае карысьці пачынаюць усё часьцей сустракацца ў такой ідэальнай напачатку беларускай сям'і... А той энтузіязм, з якім прыступалі да працы першыя Апосталы Адраджэньня, стаецца удзелам нямногіх.

Ды да гэтага не дажыў, гэтага ня бачыў Іван Луцкевіч. Гэта — праявы ўжо пасьляваенных часоў....

— — — — — — — — — —

Без энтузіязму, без самаахвярнасьці і самаадрачэньня мы ніколі ня дойдзем поўнае, канчаткавае перамогі. Перад намі йшчэ доўгая, напружаная барацьба. І мо' ніколі ня было такой палючай патрэбы ў маральна чыстых, шчыра адданых Справе і цьвёрдых байцох, як цяпер.

Але тое пакаленьне, якое так балюча перажыла сусьветную вайну з усімі страшэнствамі бежанства і акопнага жыцьця, ня здолее хіба ачысьціць атмасфэру. Гэта пераважна людзі, зламаныя жыцьцём, гэта—духовыя калекі, няздольныя нічым глыбака захапляцца ці абурацца. Ім—абы толькі самым пражыць, абы мець супакой, абы новых бед усьцерагчыся....

Затое побач з гэтым засуджаным на выміраньне пакаленьнем магутнай сьцяной устае беларуская моладзь. Растуць новыя, сьвежыя, бодрыя сілы. І на іх — уся нашая надзея. Яны—наша будучына.

Але гэтым новым барацьбітам, што ў свае маладыя, але крэпкія рукі возьмуць справу каваньня лепшае будучыны для нашага Народу, патрэбны йшчэ вучыцялі, патрэбны жывыя прыклады ахвярнае ідэйнае працы.—Такія прыклады ў нас ёсьць. А першае месца сярод іх належыцца Таму, каго сяньня—ў пятыя ўгодкі перадчаснае сьмерці—тут памінаем.

Сьветлы абраз Івана Луцкевіча, гэтага неўтамімага байца за волю і шчасьце свайго Народу, гэта—найлепшы прыклад дзеля насьледаваньня для ўсіх беларусаў. Хай-жа наша моладзь знаёміцца з Яго жыцьцём і працай, хай ведае, якімі тытанічнымі высілкамі пракладаўся трудны шлях да волі. І хай памінае імя Івана Луцкевіча, як жывы сымвал самае поўнае самаахвярнасьці, самаадрачэньня да канца—дзеля вялікае і сьветлае Ідэі.

Тады праца Яго жыцьця і пасьля сьмерці ягонай будзе аказваць магутны ўплыў свой на пакаленьні патомныя. І ў памяці Народу Іван Луцкевіч жыць будзе вечна, кажучы славамі паэта:

„Non omnis moriar!“

## УСПАМІН.

Стары правінцыяльны Менск... Садовая вуліца, каля Плябанскага млына... Прайшоўшыя маладыя гады!

Чверць веку праляцела ўжо ад тых дзён. Я—студэнт, Іван—яшчэ гімназіст.—Безканечныя размовы аб гісторыі, археалёгіі, жыцьці людзей, каторыя жылі сотні гадоў назад...

Іван—страшэнна юркі і з добрым нюхам да ўсяго, што датыкалася старых кніг і дакумэнтаў,—а меў іх, як на гімназіста, вялікую калекцыю.

Ен неяк па інтуіцыі мог уваскрашаць са старых пэргамэнтаў—людзей і старыя вякі.

Быў вучнем старога археалёга мінчука Гэнрыка Татура. Сядзелі мы гадзінамі ў кватэры-музэі старога дзівака, падобнага да прарока Елісея,—лысага, з рудой барадой. Татур—тып дэмакрата часоў Сымона Канарскага.

Стары і малы гадзінамі з захопленьнем спорылі аб гістарычнай абстаноўцы якога-небудзь факту з жыцьця Саломерэцкіх князёў, альбо старой гісторыі Менску—часоў пагрому яго Валадзімерам Манамахам. Пры гэтым абодва выказывалі надзвычайную эрудыцыю і былі ў кожнай эпосе, як у сваім кішані. Як бліскавіцай, асьвятлялі і гэты край і падзеі беларускага народу. „Северо-Западный край“ неяк прападаў, індывідуальнасьць Беларуска-Літоўскага гаспадарства ўваскрасала, як у даўныя часы.

„Этнаграфічных“ беларусаў: мяне, свайго брата Антона, ды йшчэ колькі хлапцоў Іван неяк няўзнак перарабіў на палітычных.

Сьмеласьць і вастрата мысьлі Івана была надзвычайная,—і ў думках-лятуценьнях сваіх ён

# Палітычныя падзеі.

## Канец і рэзультаты забастоўкі на Польскім Сьлёнску.

Згодна з польскай сацыялістычнай прэсай, сьцьвярджаем рашучую перамогу прамыслоўцаў і поўнае паражэньне работнікаў. Капіталісты папросту прадыктавалі работнікам і ўраду свае варункі, і ўрад, а таксама і правадыры „польскага сацыялізму“, ня мелі сілаў ані волі памагчы работнікам у іх барацьбе. Вялікая здабыча работнікаў у нашыя часы—8-мі гадзінны час працы—скасаваны па загаду капіталістаў у цэлай вялікай галіне прамысловасьці на Сьлёнску, ня гледзячы на тое, што сьцерагчы гэтую здабычу ўрачыста абяцаў прэм‘ер Грабскі ў сваей вялікай дэклярацыі ў Сойме.

## Унія парлямантаў.

19-га жніўня выехала ў Бэрн (Швайцарыя) на зьезд Уніі Парлямантаў група польскіх парлямантарыяў усіх партыяў, у ліку 21 паслоў і сэнатараў, — пад старшынствам праф. Дэмбіньскага (які—ані пасол, ані сэнатар!..) З сацыялістаў у дэлегацыю ўваходзе п. Лібэрман.

Здаецца, з меншасьцяў не паехаў ніхто... — А гэта-ж было вельмі патрэбна...

З Бэрну польскія дэпутаты паедуць у Жэневу — як раз на час кангрэсу Лігі Народаў.

## Дэклярацыя старшыні радавай дэлегацыі ў Лёндане.

На апошнім паседжаньні радава-англійскай Канфэрэнцыі ў Лёндане старшыня расейскай дэлегацыі Ракоўскі прачытаў абшырную дэклярацыю, 4 пункт якой кажа вось што:

„Ня гледзячы на тое, што аж 70 проц. насяленьня Усходняй Галіччыны складаюць украінцы і толькі 14 проц. палякі, Рада Паслоў у Парыжу ў 1923 г. далучыла яе да Польшчы. Гэта-ж ня толькі гвалт над воляй галіцыйскага насяленьня, але і нарушэньне абяцаньняў саюзьнікаў аб „дараваньні“ Галіччыне права самавызначэньня. Ня гледзячы на гэтыя абяцаньні, на 5-міліённы народ з помачай саюзьнікаў накінута ярмо няволі. Насяленьне Галіччыны цяпер апынулася ў горшым палажэньні, як было пад уладай фанатыкаў і клерыкалаў Аўстра-Вэнгрыі.

У 1921 годзе Радавыя Расея і Украіна заявілі, што не прызнаюць гэтага рашэньня, трэбуючы для Галіччыны самавызначэньня і плебісцыту. У прошлым годзе, у часе анэксіі Галіччыны Польшчай, Расея і Украіна ізноў паўтарылі свой пратэст.

Англія павінна цяпер давясьці справу самавызначэньня Галіччыны да канца, каб паправіць лёс апошняй.

Гэтым чынам англійскі ўрад памог-бы вырашэньню задачы, якую б аканчальна разьвязала само насяленьне Галіччыны“.

## Адозва ВЦІКА СССР.

Выканаўчы Камітэт СССР выпусьціў адозву, ў якой рэзка пратэстуе проці рэпрэсіяў англійскага „сацыялістычнага“ ўраду проці англійскіх камуністаў, заклікаючы апошніх вясьці далей барацьбу і агітацыю ў арміі і флёце.

## Перамога Радіча.

Новы югаслаўскі ўрад маніцца даць Харвацыі поўную аўтаномію і назначыць князя Карагеоргіевіча намесьнікам для яе.

## Замах на Радіча.

Найбольш ненавісны сэрбскім нацыяналістам Радіч, які фактычна, нават сядзючы заграніцай, здалеў скінуць урад Пашыча, амаль ня стаўся ахвярай гэтай ненавісьці. Нейкі бандыт зрабіў на яго замах, але няўдачна. Праступнік арыштаваны.

## Знойдзены труп Маттэотті.

Італьянскае агенцтва падае, што ўрэшце паліцыя знайшла труп забітага фашыстаўскім урадам сацыялістычнага пасла Маттэотті. Труп пасечаны на 4 кавалкі, галава зусім абдзерта. Паслы-таварышы Маттэотті пазналі яго па залатым зубе.

## На Баўгарскай граніцы — трывожна.

Разьмяшчэньне румынскіх войскаў уздоўж баўгарскай граніцы закончана. У Чорнаводах стаяць 2 эскадры аэрапланаў. Румынскі флёт стаіць гатовы да дзела ў Канстанцы. Румынскі ўрад мае ўкрытую мэту, у выпадку разрухаў у Баўгарыі, зараз-жа захапіць баўгарскі горад Варну.

## Узбурэньне ў магамэтанскім сьвеце.

З Лёндану падаюць, быццам ўва ўсім магамэтанскім сьвеце навакол Сярэдземнага мора пануе вялікі і грозны рух, скіраваны проці Англіі, Францыі і Гішпаніі. Перамога над Гішпаніяй дала духу паняволеным эўрапэскім імпэрыялізмам народам Афрыкі. У розных мясцох выбухнулі паўстаньні. Англійскія караблі з войскам пасланы ў Судан (Вэрхні Ягіпет), дзе чакаюць агульнага паўстаньня ў зьвязку з адмовай Англіі далучыць Судан да дабіўшагася значнай самастойнасьці Ягіпту, і з гвалтамі англійскіх войск.

## Антыфранцускі рух у Сірыі.

У зьвязку з агульным рухам магамэтан усяго сьвету павялічыліся проціфранцускія настроі і ў Сірыі, на якую, як ведама, Вэрсальская Канфэрэнцыя „дала мандат“ Францыі.

## Паўстаньне ў Афганістане.

З Масквы падаюць, што ў Афганістане выбухнула паўстаньне проці сучаснага эміра. Паўстанцы аб‘явілі эмірам Абдула Кэрыма, які ўвесь час жыў у Індыі. Сувязь паміж Кабулем (сталіцай) і войскам ураду парвана.

# Лёндонская Канфэрэнцыя.

## Канец Канфэрэнцыі.

Урэшце, пасьля месяца працы, скончылася Лёндонская Канфэрэнцыя, як здаецца, — поўным паразуменьнем.

Фактычна, як і можна было спадзявацца, паразуменьне адбылося на падставе францускіх дамаганьняў, але немцы дабіліся вельмі важных „уступак“.

Цэлы дзень 15 жніўня йшлі нарады франка-бэльгійскай дэлегацыі з нямецкай, ад якіх Мак-Дональд зусім адсунуўся, пакінуўшы французам амаль зусім вольную руку.

Урэшце 16 было дасягнута паразуменьне.

Пастаноўлена, што абодва прэм‘еры, францускі і бэльгійскі, дадуць нямецкаму ліст, у якім, заявіўшы, што лічуць акупацыю нямецкіх абшараў праўнай і згоднай з Вэрсальскім Трактатам, аднак-жа, з увагі на паразуменьне і ўмовы, зробленыя на Канфэрэнцыі, згаджаюцца і абязываюцца не пазьней, як у працягу году, лічучы ад 15 жніўня, ачысьціць усе занятыя тэрыторыі.

Нямецкі прэм‘ер з свайго боку дасьць франц. і бэльг. ліст, у якім, пратэстуючы проці няпраўнай і нязгоднай з Вэрс. Трактатам акупацыі, але, прымаючы пад увагу ўмовы і перагаворы на Канфэрэнцыі, згаджаецца на гэтыя варункі, дамагаючыся аднак-жа магчыма хутчэйшага зьняцьця акупацыі.

Апроч таго, французы абязаліся ачысьціць усе іншыя абшары, апрача Рурскага, у 24 гадзіны пасьля аканчальнага падпісаньня пратаколаў Канфэрэнцыі, якое адбудзецца 31 жніўня.

Вечарам 16 жніўня адбылося апошняе паседжаньне Канфэрэнцыі, на якім старшыні галоўных дэлегацыяў абмяняліся прамовамі, ў якіх віншавалі адзін аднаго з удачай іх доўгай і цяжкай працы.

Цікава, што франц. прэм. Эрыо падпісаў пратакол толькі сваімі ініцыяламі (першымі літэрамі імя і прозьвішча), адлажыўшы поўны подпіс да канца месяца, пасьля ратыфікацыі пратаколу францускім парлямантам, які ён склікае на 20/VIII.

Зусім так сама зрабілі і нямецкія дэлегаты.

# ХРОНІКА.

**Памяці Ів. Луцкевіча.** Сягоньня, у сераду, ў пятыя ўгодкі сьмерці Івана Луцкевіча, у 9 гадз. раніцы адбудзецца жалобная імша ў касьцёлі сьв. Мікалая.

**Чародная Канфіскацыя.** Па загаду Камісара Ураду на м. Вільню, паліцыя сканфіскавала № 28 „Сына Беларуса“ з 17 жніўня г. г. За што—ня ведаем.

**Паседжаньне Школьнай Рады** ў Вільні адбылося 6.VIII. Рада абгаварвала прадусім справы беларускіх школ, як сярэдніх, так і пачатковых у бягучым школьным годзе. Выбрана асобная школьная камісія дзеля апрацаваньня пляну і спосабаў адкрываньня беларускіх школаў. У склад Камісіі ўвайшлі: дыр. Бел. гімназіі Р. Астроўскі, Кіраўнік Беларускай урадавай пачатковай школы ў Вільні В. Манкевіч і Старшыня Школьнай Рады пасол Кс. А. Станкевіч.

**Новыя вучыцялі ў Віленскай Бел. Гімназіі.** У сёлетнім школьным годзе запрошаны на вучыцялёў у Віленскую Бел. Гімназію новыя пэдагогі: Дубіцкі, Данілевіч і Козарын. Першыя два беларусы, а трэці паляк, дужа паважны знаўца польскай літаратуры.

**Беларуская сьпявачка.** У Вільні атрымана ад вядомай беларускай дзеячкі і сьпявачкі Ганны Душэўскай пісьмо, у якім яна паведамляе, што ў скорым часе прыедзе з Бэрліна ў Вільню. У Бэрліне Г. Душэўская, якая мае прыгожы голас, вучылася ў аднаго з прафэсароў пяяньня, і голас

Ліры, бо абедзьве гэтыя струны гучаць ня толькі кожная у сваім аддзеле, але, як у запраўднай ліры,—ува ўсім, што толькі яна ні зайграе.

Гэты II аддзел—найвялікшы ў кніжцы і зьмяшчае можа наймацнейшыя творы паэта. Ня можна сказаць толькі, каб у гэтым аддзеле Сваяк быў так арыгінальным, як у першым, бо і запраўды трудна можа пасьля Купалы і Коласа, гэтых калёсаў нашай паэзіі, якая наагул і перадусім распрацавала з клясычнай паўнатой і глыбінёй *матыў паняволенае і імкнучаеся да вызваленьня і адраджэньня Бацькаўшчыны*,—цяжка пасьля іх у галіне гэтага самага матыву сказаць нешта арыгінальнае. І запраўды ў Сваяка ёсьць шмат перапеваў гэтага распрацаванага ў беларускай паэзіі з усіх бакоў матыву.

Можа гэта тлумачыцца тым, што гэтыя творы пісаліся даўно, а сьвет убачылі толькі цяпер, а можа—ня столькі ўплывам магутных айцоў нашай паэзіі, сколькі магутным націскам *незрэалізаванага* яшчэ ў нас— у гэтай Беларусі—адвечнага матыву нашай паэтычнай думкі.

Трэба адзначыць, што, ня гледзячы на гэта, Сваяк унёс у апрацоўку „матыву Бацькаўшчыны“ арыгінальнасьць у тым сэнсе, што зьвязаў, як мы сказалі, арганічна гэты матыў з „матывам рэлігійным“. Найбольш тыповым у гэтым сэнсе зьяўляецца верш другі II аддзелу—„На гадавіны незалежнай Беларусі“.

У гэтым вершу паэт паказывае, як ён адчувае драму Беларусі—Бацькаўшчыны *праз прызму Эвангельскага абраза*—цярпеньняў і сьмерці Хрыста. Але і тут—тыповая рыса натуры паэта!—перад намі—ўся дэтальная паралель цярпеньняў, зьдзекаў, укрыжаваньня і пахаваньня Хрыста і Беларусі. Няма толькі паралелі паміж імі ў уваскрасеньні!..—Ёсьць адно сумная і малаверная малітва аб гэтым „змертвыхустаньню“:

„Зьмілуйся-ж, Божа, ты над ёю,  
„Ня дай у гробе век ляжаці,  
„Пазволь да жыцьця ёй устаці:  
„У гэты час, на трэці дзень“.

Патос Бацькаўшчыны ў Сваяка можа арыгінальны яшчэ і тым, што нават у беларускай паэзіі, якая наагул адзначаецца *сумам бязсільля* і *малаверыя*, ён можа ў гэтым малаверным суме пабіў усе рэкорды.

У вельмі характрэрным у гэтым сэнсе вершу „Айчыны мілай“ паэт кажа:

„Айчыны мілай зор на сябе чую,  
„Куды ня пойду з *самлелай* душою;  
„Айчыны сьлёзнай праклёны лічу я:  
„Ратунку кліча—„Ратуйце з разбою“!

„І над Айчынай і над сабой плачу,  
„Што памагчы ёй—я *хворы, бязсільны*;  
„Што словы горкі надарма я трачу:  
„*З душ нашых вее холад замагільны.*

„*Зор мой дарэмна шукае выбаўцы:*  
„Ня віжу сільных між браці паганай,—  
„І не чакаю з рук Божага Даўцы  
„Ужо збаўленьня з долі апляванай.

„І толькі ў самым бяздоньні няверы  
„Іскра надзеі ў попеле тлее;  
„Іскра надзеі, што рана бяз меры  
„Долі народнай душы разагрэе.

„*Іскра бязвольна пажарышчам стане,*  
„*Аж твар схаваюць нябесныя зоры,*  
„*І дух народны адважна паўстане:*  
„*Раўняці будзе даліны і горы.*

„Будаваць будзе на зломах Айчыну  
„Рукой магутнай з агнём Прамэтэя,  
„І сам як згіне, дасьць тэстамант сыну,  
„Каб не змалела Айчыны ідэя!“

Гэты вельмі цікавы і глыбокага зьместу верш вельмі ярка паказвае, да чаго ўрэшце даходзяць тыя сумна-пасыўныя, нават падмацаваныя рэлігійнай верай настроі, пануючыя ў „біалягічна-малаверных“ элемэнтах нашай *Заходняй Беларусі*, якіх тыповым прадстаўніком зьяўляецца Сваяк. Страціўшы ўсякую веру „ў Выбаўцу“, „хворыя і бязсільныя“, яны,—як прароча Сваяк,—запраўды—на дне свайго „бязвольнага суму“,—у самым бяздоньні няверы“, як пекна выражаецца Сваяк, — зусім выразна *бачаць ярка апісаны паэтам абраз Рэвалюцыі*!

І вось—вельмі характэрна і важна, што нават у прасякнутым наскрозь маральна-рэлігійным патосам сьветапачуцьці Сваяка насьпявае ўнутраная душэўная рэвалюцыя. І ён пачынае разумець, што спадзявацца „ратунку ад разбою“ ці „збаўленьня з долі апляванай“ ад нейкага вонкавага „выбаўцы“, а нават „з рук Божага Даўцы“—няма дастатачных падставаў.

„Каб не змалела Айчыны ідэя“, за дзела яе адбудаваньня павінен устаць і—што-б ні было — ўстане сам народ.

І вось першая сутычка ў душы паэта абодвух сьветапачуцьцяў, двух яго галоўных патосаў: маральна-рэлігійнага і нацыянальнага, — Богапачуцьця з народапачуцьцем—дала зусім выразную перамогу гэтаму другому.

Гэта-ж першы і зусім бязсумліўны знак таго, што ў рэлігійнай сыстэме Сваяка зроблена ў „нябесным пляне“ нейкая важная, мо‘ *прынцыповая абмылка*, якую цяпер прыходзіцца самаму жыцьцю —ў пастаці магутнай „ідэі Айчыны“—папраўляць у „пляне зямным“,—дый мо‘ нават такімі „спосабамі“, што—„аж твар схаваюць нябесныя зоры“.

І вось трэба адзначыць, што можа запраўдная арыгінальнасьць Сваяка ляжыць ня ў тым, што ён сіліцца *памірыць, згарманізаваць* у сваей паэзіі новы рэвалюцыйна-нацыянальны зьмест выклiканага народным жыцьцём „псыхічнага патоку“—з старымі, прывычнымі, магутнымі ў яго душы формамі,—бо хто-ж не рабіў гэтага праз увесь час „панска-ксяндзоўска-народніцкага пэрыяду“ беларускай літэратуры!—але—якраз наадварот: яго запраўдная арыгінальнасьць і вельмі паказальная адзнака часу—ў тым, што—ў бязсумліўнай паэтычнай чэснасьці і шчырасьці чалавечай душы песьняра-патрыота раскрыта для ўсіх у яго паэзіі *барацьба* абодвух сьветапаглядаў і сьветапачуцьцяў,—і ў гэтай барацьбе *кампрамітуюцца старыя формы*, *старая маральна-бюрократычная сыстэма*, а трыумфуе „Жыцьцё“, — трыумфуе „Айчыны Ідэя“!..

**Суліма.**

(Канец будзе).

яе разьвіўся фэнамэнальна. Па прыезьдзе ў Вільню Г. Душэўская дасьць рад канцэртаў.

**Дарагоўля расьце!** Мала таго, што Польшча сталася самай „дарагой“ дзяржавай у Эўропе: дарагоўля на спажыўныя прадукты ўсё больш расьце. „Gaz. Warsz.“ аблічае, што за апошні месяц цэны жыта і мяса павялічыліся на 50—60%. Прычынай дарагоўлі зьяўляецца тое, што ўрад, каб даць абшарнікам магчымасьць „паправіць“ свае кішані (як-быццам ім блага дагэтуль жылося!), дазволіў вывазіць скаціну і хлеб заграніцу. За апошнія два месяцы вывезена заграніцу колькінаццаць тысяч галоў скаціны!

## Пасьля Стаупецкага нападу.

*(З гутаркі з дэпутатамі).*

Праз некалькі дзён пасьля нападу на Стоўпцы пасол М. Кахановіч і сэнатар А. Назарэўскі выехалі на месца нападу і там дэтальна пазнаёміліся з усёй справай, якая не зусім дакладна прадстаўлена польскімі газэтамі.

Згодна з інфармацыямі памянёных дэпутатаў, справа выглядае так:

Напад адбыўся пасьля 1 гадз. ночы з 3 на 4 г. месяца. Нападаўшыя былі падзелены на групы па некалькі душ, якія ўвайшлі ў мястэчка з усіх яго бакоў. Усе былі узброены ў стрэльбы і леварвэры. Апранены былі ў звычайныя сялянскія вопраткі, але толькі босыя, — відаць, дзеля таго, каб лягчэй было хадзіць. Ішлі кучкамі, троху прыгнуўшыся і трымаючы ў аднэй руцэ стрэльбу, а ў другой леварвэр. Моцна паміж сабой гаварылі, а падчас і крычэлі. Чутна была каманда, пад-час з моцнымі слаўцамі. На аднэй з вуліц аднэй такой групе сустрэўся паліцыянт, якога спынілі крыкам: „Хто ідзе? пароль!“, і на адказ: „паліцыянт“, посыпаліся стрэлы, і паліцыянта забілі. Забілі яшчэ урадоўца Юрахно, які прост вяртаўся з казіно і быў у вясёлым настроі, а так сама вясковага хлопца, які прывёз у Стоўпцы пасажырку. Гэтага апошняга забілі выпадкова. Паасобныя групы напалі на староства, на пошту, на каманду паліцыі, на скарбовую касу, на вастрог, на вакзал, на тартак Кітаевіча і некаторыя крамы. Стралялі пры гэтым нават з кулямётаў.

У старостве сьцены і вокны папрабіваны кулямётнымі кулямі, але да самага староства нападаўшыя не дабіліся, бо адтуль адказвалі стрэламі. На пошце аграбілі досыць салідную суму грошаў. У Кітаевіча заграбілі семера коняў і вазы, ды забілі служачага (жыда), які прыадчыніў дзьверы з ганку і глядзеў, як забіралі коняў. У гэты час раздалася каманда: „зачыніць дзьверы! схавацца!“ і ў той самы час стрэл—куля папала ў жывот. Служачы праз некалькі гадзін зьмёр.

У мястэчку аграбілі некалькі крамаў з сукнамі і золатам. Усё нарабленае палажылі на вазы і на конях Кітаевіча павезьлі ў напрамку граніцы, адстрэліваючыся ад паліцыі і ўланаў. У гэтай перастрэлцы забіты былі яшчэ 6 паліцыянтаў.

Цікава, што амаль ня ўся Стаўпецкая паліцыя пры першых-жа стрэлах нападаўшых пахавалася, хто ў склеп, хто на падстрэшшы, а пераважна ў картоплі. Паліцыі ў Стоўпцах ёсьць чалавек 60—лічба лішне салідная, каб не аказаць спраціву. Аднак, з боку паліцыі гэтага ня было зроблена, што сьведчыць не ў яе карысьць.

Напасьледак трэба адзначыць, што, **па ведамасьцях стаўпецкага старасты**, у якога былі дэпутаты, усіх нападаўшых было каля 100; з іх перайшло граніцу для нападу 42, а рэшта—тутэйшыя. З самых Стоўпцаў было 6 чалавек.

Як ведама з ноты міністра загранічн. спраў, п. Скшыньскага, да Чычэрына, злоўлена ўжо каля 15 бандытаў. Але п. стаўпецкі староста ня сцьвердзіў гэтага нашым дэпутатам. Ён сказаў, што злоўлена да таго часу (а гэта было ўжо пасьля ноты п. Скшыньскага) толькі тры пэўныя бандыты. Першы — гэта Іода, які быў ранены ў жывот і ляжаў у безпрытомнасьці. Другі — гэта паляк з Люблінскага ваяводзтва, які, як кажуць, увязаўся да нападу прыпадкова, а па прафэсіі злодзей. Яго, быццам, самыя бандыты гналі ад сябе. Трэйці — стаўпецкі жыхар Гарачко, які ня ўцёк са Стоўпцаў разам з усімі, а астаўся да наступнай ночы ў сваёй жонкі; калі-ж выйшаў ад яе і пайшоў да граніцы, дык заўважыў, што граніца густа абсаджана паліцыяй і войскам. Вось, ён і астаўся ў лесе. Захацеўшы есьці, ён папрасіў пастушка, каб той прынёс есьці, і даў яму 50 злотых. Бацька пастушка западозрыў, што тут нешта ёсьць, калі чалавек ня йдзе сам, а пасылае хлопчыка, і даў знаць у паліцыю, якая потым па сьледу хлопчыка і злавіла Гарачку.

Вось, гэтых толькі трох і злавілі. Затым, адбываюцца арышты, і па тэй ці іншай прычыне людзей затрымліваюць, але ўлада ня можа нічога пэўнага сказаць, ці вінаваты яны ў чым-небудзь. А тым часам арышты растуць і, бязумоўна, народ ад іх церпіць і церпіць нявінна.

Агульнае ўражэньне ад усяго, што прышлося заўважыць нашым дэпутатам на Стаўпецкім пагранічча,—кепскае. Насяленьне не паважае і ня любіць польскай улады. Паліцыя не на вышыні заданьня і сарганізавана дрэнна. Напр., са Стоўпцаў да граніцы вядзе адна толькі простая дарога, якая на працягу можа каля 200 сажняў цягнецца па грэблі, а з бакоў яе вада і балота. Тут, калі-б паліцыя не хавалася, можна было-б захапіць усіх нападаўшых, а ня толькі 3-х, дый то папаўшыхся **„па сваей віне“**, але ня дзякуючы здольнасьці паліцыі.

**В. У.**

# З УСХОДНЯЕ БЕЛАРУСІ.

### Падзел месцаў у вышэйшых школах.

Установлены лік месцаў для прыёму ў гэтым годзе студэнтаў у вышэйшыя школы БСРР:

**А) У Белар. Дзярж. Унівэрсытэце:**

а) мэдыцынскі факультэт—150 ч., б) пэдагагічны—300 ч.

**Б) У Менскім Інстытуце Сел.-Гасп.**

а) агранамічны факульт.—70 ч., б) лясны факультэт—100 ч.

**В) У Горацкім Сел.-Гасп. Інстытуце:**

а) агранамічны факультэт — 70 ч., б) землябудаўнічы факультэт—60 ч.

### Геалягічныя дасьледы Беларусі.

Рада Нар. Камісараў пастанавіла адпусьціць 6,000 руб. на далейшыя геалягічныя дасьледы Беларусі. Дасьледы вядуцца адначасна дзьвюма экспэдыцыямі: адна пад кіраўніцтвам праф. Блюдухі—на Усходняй Беларусі, другая — пад кіраўніцтвам праф. Тарлецкага—ў Меншчыне. Абедзьве экспэдыцыі маюць усе неабходныя інструманты, што дапаможа паставіць увесь дасьлед на навуковы грунт.

Трэба адзначыць, што ніколі яшчэ геалягічныя дасьледы ў Беларусі не вяліся ў гэткім шырокім абхваце. Можна спадзявацца, што вынікі сёлетніх дасьледаў адчыняць шмат новых магчымасьцяў для разьвіцьця прамысловасьці і сельскае гаспадаркі Беларусі.

## Сельска-гаспадарскія парады.

### Што рабіць каб садовыя дрэўцы хутчэй разрасталіся.

Каб пасаджаныя маладыя садовыя дрэўцы (прышчэпы) хутчэй разрасталіся ў таўшчыню, каб ствол і першыя сукі былі больш крэпкія, дзеля гэтага трэба рабіць шрамаваньне кары як на ствале, так і на першых суках дрэва. Шрамаваньне выяўляецца ў тым, што канцом вострага нажа праводзіцца па ствалу дрэва зьверху ўніз, а на галоўных суках удоўж іх, шрамы, праразаючы кару да мяса (дзерава). Пасьля гэткага шрамаваньня, разрэзаная кара як-бы разсуваецца на абодвы бакі, а пасярод разрэзу знаходзіцца новая маладая кара, і гэткім парадкам дрэва хутка павялічваецца ў таўшчыню. Робячы так шрамоўку што год, мы ня толькі тутака павялічваем таўшчыню дрэва, але і зьменіваем на дрэве тоўстую ацьвярдзеўшую кару, якая сьціскаець, як абручамі, дрэва і не даець яму магчымасьці таўсьцець. Бываюць выпадкі, што ствол разрастаецца неаднолькава: у вярху каля сукоў бываець таўсьцей, чым у камлі. Гэта бываець ад таго, што на танчэйшай часьці ствала кара надта агрубела і перашкаджаець ствалу нармальна расьці. У гэткім выпадку памагчы дрэву можна толькі шрамаваньнем кары.

Шрамаваньне кары можна рабіць толькі на дрэвах, якія ўжо добра прыжылі на новым мейсцы. Маладыя прышчэпы трэба пачынаць шрамаваць толькі на другі год, пасьля таго, як яны былі пасаджаны ў садзе. У першы год робіцца адзін шрам зьверху ўніз па ўсяму ствалу, на другі год можна правясьці два шрамы адзін насупроць другога (адзін з аднаго боку, другі з другога). Калі дрэва тоўстае, напрыклад вяршок-два, можна адразу правясьці шрамы два-тры. Ад шрамаваньня кары ня толькі дрэва таўсьцеець, але і павялічываецца яго ўраджайнасьць.

Шрамаваць кару найляпей рана вясной, як толькі дрэвы пачнуць распускацца, (але не раней гэтага), пазьніцца з шрамаваньнем ня трэба, бо да восені шрамы могуць добра не зажыць і як сьледна зарубцавацца. Шрамаваць трэба толькі дрэвы гадоў да 25. На старых дрэвах шрамаваньне нічога не памагае або толькі шкодзіць. Праводзючы шрамы, трэба нож трымаць роўна, каб ён ня рэзаў у бок, а таксама трэба старацца разразаць толькі самую кару і ня раніць дзерава. Гэткае шрамаваньне робіцца толькі на яблынях і дулях.

Шрамаваньне кары добра рабіць каля усякіх ран, якія бываюць на дрэві ад марозу ці ад зайцоў і інш. прычын. У гэткім разе праводзяцца шрамы каля бакоў раны на здаровай карэ і адзін ззаду. **Я. П.**

## Наша пошта.

1) **Тодару Сеглюку.** 4 зл. атрымалі. Газэту высылаем; 2) **Сымону Томку.** 4 зл. атрымалі. Газэту высылаем; 3) **Кнігарні Т-ва „Просьвіта“.** 2 зл. атрымалі. Газэту высылаем; 4) **М. Саўцы.** 3 зл. 35 гр. атрымалі; 5) **М. Троцкаму.** 2 зл. атрымалі. Газэту высылаем; 6) **Зьмітраку Кацубе.** 2 зл. атрымалі. Газэту высылаем; 7) **Аляксею Іванаву.** 10 зл. атрымалі. Напішэце, з якога часу выпісываеце газэту, тады аблічым Ваш доўг; 8) **К. Місневічу.** 2 зл. атрымалі; 9) **Ант. Сушко.** 6 зл. атрымалі. Вам пасылаем 2 экз. газэты, а на адрасы, каторыя Вы прыслалі, па 1-му экзэмпляру.

### На прэсавы фонд „Сына Беларуса“.

1) Сабраныя праз дэпутата П. Мятлу на мітынгу ў Порплішчы 3 зл. 43 гр.; 2) Ад Я. Радзюкевіча 1 доляр атрымалі і залічылі яго на Прэсавы Фонд.



Рэдактар-Выдавец **М. Шыла.** Друкарня Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.